З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

# НЕ ЗЛУЙ...

...Думаеш, Верка, што і мой Сцяпан таксама не п'е? Не скажу, раней, бывала, рэдка ў чарку заглядаў; от, часамі пры свяце, або калі хто са сваякоў наведае. Вядома, тады мус паўлітроўку якую дзелень расстарацца. Але з тых пор, як Юрка ажаніўся і кватэру дастаў у Беластоку, а Нінка, кончыўшы свае навукі, на працу пайшла, разгуляўся стары, зусім адурэў. Нядзелька святая прыходзіць, кажу, у царкву час ісці ды сама прыбірацца пачынаю. Пакуль я сёе-тое прыздоблю, бачу, прапаў дзесьці Сцяпан і след па ім прастыў. Ажно ўвечары прывалачэцца п'яны - п'янюсенькі і безупынку мармыча ўсё пад носам — не злуй... і, чаго злуеш?... А мяне крыўда такая за сэрца схопіць, здаецца, гэту кучму раскудлачаную вылупіла б з чэрапам і сабакам шпурнула б, каб не смярдзела тут самагонкаю праціўнаю.

Раскошным стаўся, пазапальвае святло ва ўсёй хаце, радыё наставіць, аж вушы пазакладвае ад гуку, ды падспеўвае сабе «раскінулася мора шырока»... Не вытрымоўваю і абзываю ад гарэлачных братоў горкіх; страшу, што напішу я сыну, нябось, усенька апішу, як папіваць пачынаеш на старыя гады. Хай прыедзе, паглядзіць на свайго бацюльку ды выспаведае парадкам.

Пачуўшы такія словы, мякчэе Сцяпанка і апраўдваецца, што, калі там разок на тыдзень вып'е сто грамаў, дык хутчэй п'яніцай абзываю. Чуеш, Верка, ён жа не хацеў піць, але Ванька Канцавы падышоў і кажа, што мае чвэртку добрага першачку ад знаёмага, а Сцяпан заслужыў у яго на тое, бо ж, каб не памог коньмі ў сяўбе, невядома, ці адолеў бы да зімы работу... Просіць чалавек зайсці, дык што? Не выпадае адказацца...

Вось жа паспрабуй насварыцца на яго. Відаць, нічога шумам не зраблю, не пераканаю. Скажы, прашу Сцяпана, няўжо табе так пасмакавала гэта брыдота? Навошта труціш сябе гідасцю смярдзючай? Лепей купіў бы бутэльку віна смачнага, і я разам пакаштавала б! А ведаеш, Верка, ён і ўцешыўся ды паабяцаў, што на другую нядзелю напэўна купіць, бо што ж нам, старым, засталося больш, кажа, калі не павесяліцца? Дзяцей пагадавалі, людзьмі выхавалі, хата вясковая ім непатрэбна, самі ў ёй сірацеем. Нашы гады маладыя не так прайшлі. Наганяліся мы за каровамі, нахлёбаліся расолу поснага, грошы на зямлю збіраючы. Пара адпачыць, пажыць па-людску.

Яно то праўда, толькі парай мне, Верка, што рабіць, каб Сцяпана адцягнуць ад гарэлкі? З Ванькам цяпер знюхаўся. Той начоўп ужо раз смуроду на ўсю вуліцу перад Калядамі, самагонку гнаў у кухні апоўначы, з бочкі штосьці там вырвалася і пачала свістаць брага па полапе, сценах ды шлёпаць зверху гарачая па патыліцах. Ванька кажухом накрыўся, дзеці пад ложак пахаваліся, а жонка на панадворак ламянула, ледзь дзвярэй на сабе не вынесла на плячах са страху. Пасля дзерлі на другі дзень дошкі венікамі ў вадзе гарачай мачаючы, а завея якраз разбушавалася на дварэ. Ледзь не пагінулі ад холаду, хата іхняя і цяпер яшчэ брыдка пахне.

Чаго добрага, Сцяпан да сполкі Ванькавай прыстане ды яшчэ пападуцца пад міліцыю, пасудзяць абодвух, адну мяне на гаспадарцы пакіне.

Адоль КАСТРЫЦА



Гэтыя нараканні чулі вы ўжо хіба не адзін раз: доўгія зімовыя вечары, нудна цягнецца час, моладзь на вёсцы, бы ап'янеўшыя авечкі, блытаецца сонна з хаты ў хату. Няма святліцы, няма дзе разгарнуцца...

Ці абавязкова мусіць так быць?

У Рагачах таксама няма святліцы, а школа неваліцца вучням на галавы толькі таму, што яе падперлі моцнымі калкамі. Аднак у гэтай школе штодзень да позніх гадзін вечара не пагасае святло. Ад двух ужо гадоў збіраецца тут моладзь з трох суседніх вёсак: Рагачоў, Мікуліч і Мядзвежык. Прыходзяць на заняткі Маладзёжнага ўніверсітэта культуры. Чаму іх там толькі не вучаць! І як апранацца, як весці сябе за сталом, як прасіць дзяўчыну танцаваць... і гісторыі, біяло-

Дык адразу паявіліся першыя пары.



Душой рагачоўскага універсітэта з'яўляецца зараз кіраўнік тамтэйшай школы Андрэй Мацюк. Ён — сірата — быў адзіным мужчынскім удзельнікам курса гатавання. Штосьці крывіцца, прабуючы нейкую страву, хаця яе прыгатавала такая прыгажуня як Ніна Карнелюк.

# ВЯСЕЛЛЕ БЕЗ

гіі, свядомаму мацярынству... А ў апошнім часе ў рамках універсітэцкіх заняткаў наладзілі курс гатавання — гатавання, зразумела, высакаякаснага, ашчаднага ды смачнага. Курс працягваўся два тыдні. 26 дзяўчат і замужніх жанчын штодзень пераймалі ў сваё валоданне школьную кухню і церпяліва пазнавалі тайны нялёгкай штукі.



Але завялі адаптэр, а настаўніца Ніна, як найлепшы знаток музыкі, падбірае адпаведныя пласцінкі.

А калі ўжо навучыліся, калі закончылі курс — адбыўся ў Рагачах вялікі баль, сапраўднае вяселле. На жаль, не было на ім толькі маладажонаў.

Усё гэта, ад пачатку да канца, падглядаў я вокам фотаапарата, дык на пацвярджэнне сваіх слоў прадстаўляю здымкі.



Тэхніка тэхнікай, але найлепш танцуецца, калі гармонік грае, грае...

# Чаму так дзеецца?

Часта пішацца ў «Ніве» аб пакрыўджаных самотных людзях і я хацеў бы дадаць некалькі слоў аб такіх пакрыўджаных.

Вось у Плёсках жывуць дзве бабулі, адна з аднаго канца вёскі, а другая з другога. Жывуць вельмі бедна і ў ліхіх памяшканнях. Пачнем пакуль што аб адной, аб Тэадоры Раманюк. Ну што ж, бабуля, як сама гаворыць, мучыцца, а не жыве, спіць у брудзе і холадзе. Жыла яна спярша ў малой, старой хаціне, якая па нядоўгім часе развалілася. Купіла яна нібыта лепшую, заплаціла добра. Паставілі ёй добрыя людзі, але не дакончылі, так яна цяпер мучыцца і ў гэтай хаце. У хаце холадна, брудна, з усюль цячэ на галаву бабулі. Мае некалькі хатніх жывёлін, на якія страшна глядзець. Чаму бабуля так мучыцца? Пераглядаю паперы. Мае яна 12 гектараў зямлі і то добрай, але што ж, яна не выкарыстаная, расце пустазелле. Ці не маглі б зацікавіцца гэтай бабуляй, якая мае ўжо 80 год, бельскія ці мясцовыя ўлады, а дзе сельскагаспадарчы гурток, які мае два трактары, дзе жанчыны.

Другая бабуля мае ўжо 70 год і завецца Марыя Смалеўская, жыве таксама бедна, мае 3 гектары зямлі, карову і некалькі курэй. Хатка слабая, халодная і ўжо валіцца. Мала хто аб ёй дбае, а што найгорш, мае нядобрых суседзяў, якія робяць ёй шкоду, і бабуля заўсёды вельмі пакрыўджаная. Бабуля баіцца такіх суседзяў пакараць. Заўсёды грозяць Бабуля добрая, працавітая, але яна мучыцца, а ніхто ёй не дапамагае. Мяне адно дзівіць: чаму ніхто не цікавіцца такімі пакрыўджанымі? (пі)

# ШТО ТАКОЕ ФІЛАСОФІЯ

— А скажыце ж бо, Параско, што гэта з вашым Іванам здарылася, што ён вось так з розуму зышоў?

— Ой кумо, то ж ён такую кніжку чытаў. І ад гэтай кніжкі розуму пазбыўся.

— Гэта напэўна чорная магія была, праўда?

— Не, не, філасофію, кумо, чытаў, філа-софію.

— Оо!

На твары Парасчынай кумы адмаляваўся жах, а ў мяне ўзнікла думка паспрабаваць адказаць на старонках «Нівы» на пытанне: што такое філасофія?

Не буду нудзіць вас акрэсленнямі «філасофіі», лепш раскажу, чым займаліся і займаюцца філосафы.

Вось першы з іх, першы еўрапейскі вучоны, старажытны грэк — Фалес. Жыў ён звыш 2500 гадоў таму назад. Яго заслуга перад еўрапейскай культурай заключаецца ў тым, што ён першы паставіў перад сабой пытанне: з чаго ўсё зроблена? «Зразумела, — адказваў сам сабе старажытны Фалес, — увесь свет зроблены з вады». «Чаму менавіта з вады?» — пыталіся людзі Фалеса, а Фалес паясняў: «Бо раслiннасць расце толькі там, дзе ёсць вільгаць, бо нічога без вады жыць не можа, бо калі на сонцы або ў агні вада высыхае, усё вяне, курчыцца, гіне». Зразумела, што Фалес памыляўся. Заўважылі гэта ўжо яго вучні і пачалі папраўляць свайго настаўніка. І так, напрыклад, Анаксымен талкаваў, што ўсё не з вады, а з паветра, Геракліт — што ўсё з агню, а Эмпедокл дайшоў да вываду, што свет складаецца з чатырох стыхій: вады, паветра, зямлі і агню.

Найбліжэй да праўды быў Дэмакрыт. Гаварыў ён, менавіта, што ўсё складаецца з атамаў, якія не з'яўляюцца ні вадой, ні паветрам, але з якіх затое створаны і вада і паветра, і ўсякія іншыя рэчы. Малыя яны аднак на столькі, што людское вока не можа іх убачыць.

Такім чынам заслуга Фалеса не ў яго адказе (усё з вады), а ў самім пастаўленні пытання: з чаго ўсё створана? (Нікому да гэтага часу не прыходзіла ў голаву такое пытанне). На гэтае пытанне на працягу двух з паловай тысяч гадоў чалавечы розум шукае ўласцівага адказу.

За гэты час чалавечы зрок, узброены рознымі прыладамі, пранікнуў у бязмежныя глыбіні космаса, здолеў разабрацца ў часцінках мільёны разоў меншых ад найменшай пылінкі, выдзерта ад прыроды шмат яе таямніц і выкарыстана для нашых патрэб.

# ЧАЛАВЕЧЫ РОЗУМ У

Фізікі, хімікі, біёлагі, астраномы і іншыя вучоныя даследваюць прыроду з розных бакоў. Над паасобнымі пытаннямі прыроды працуюць цэлыя штабы вучоных, якія паслугоўваюцца магутнымі інструментамі доследаў.

І хаця зараз робіцца ўсё гэта не заўсёды з мэтай знайсці адказ на пастаўленае Фалесам пытанне «з чаго ўсё зроблена?», то аднак, карыстаючыся дасягненнямі навукі нашых дзён, многа больш можам сказаць аб істоце прыроды, чым мог аб ёй сказаць старажытны Фалес і яго вучні.

Аказваецца, што рацыю меў Дэмакрыт, які сцвярджаў, што ўсё з атамаў.

Атамы аднак, аб якіх гаворыць нам сучасная навука, мала падобныя да тых, якія ўяўляў сабе Дэмакрыт і ўсе іншыя вучоныя да XVIII стагоддзя ўключна.

З атамаў складаецца ўсё і ўся: і зямля, і паветра, і вада, і малако, і мы самі. Факт, што гэтага не заўважаем, тлумачыцца тым, што атамы страшэнна малыя і незаўважныя для няўзброенага чалавечага вока.

Найлепшым доказам таго, што свет пабудаваны з атамаў — атамная энергія, велізарная сіла, якая атрымліваецца з глыбі малюткіх атамаў.

Чаму аднак тады, запытаецеся вы, кавалак сталі, які складаецца з атамаў, не рассыплецца, быццам бульба, высыпаная з мяшка. «Таму, — адказвалі заўсёды прыхільнікі атамнай структуры рэчаў, — што паміж атамамі дзейнічаюць сілы ўзаемнага прыцягвання. Атамы, быццам моцныя магніты, трымаюцца адзін аднаго.

# КАСМІЧНЫ ГОРАД

У перадвыбарчай кампаніі Кубічэк абяцаў выбарцам, што калі выбяруць яго прэзідэнтам Бразіліі, ён перанясе сталіцу ў сярэдзіну краіны. Гэта быў важкі атут. Бразілія — вялікая краіна, а старая сталіца яе Рыо-дэ-Жанейра распаложана на беразе Атлантычнага акіяна, далёка ад цэнтра.

Сапраўды, Кубічэк быў выбраны прэзідэнтам. і сапраўды, пачаў будаваць новую сталіцу. У месцы пустым і глухім, дзе не было нават ніводнай хаты. Горад рос хутка. грошай прэзідэнт не шкадаваў. Горад суперсучасны, горад на меру касмічнай эпохі, горад шкла, сталі і прастору. горад незвычайных светлавых ілюмінацый. горад самых смелых архітэктурных праектаў. Новая сталіца Бразіліі называецца Брасілія.

вл



Сельская гаспадарка без таямніц

# УЖО ВЯСНА

Каляндар не заўсёды гаворыць праўду. Урэшце, не ўсе маюць аднолькавыя тэрміны вясны. Цяпер лютуе зіма. Людзі могуць толькі марыць аб вясне. Але ці сапраўды толькі? Для адных яшчэ зіма, а для іншых ужо вясна. Так, так, вясна.

На станцыі ацэнкі насення ўжо прарастае насенне. Правяраецца тут якасць насення, і ў першую чаргу сіла прарастання, вільготнасць і чысціня. Гэта найважнейшыя якасці, якія вырашаюць добры гэта ці дрэнны матэрыял, можна яго сеяць ці не, якія будуць ураджаі. Доследы САН шмат могуць сказаць, але не ўсё. Важны таксама колер, запах, велічыня зерня і г.д. Гэта можна акрэсліць са знешняга выгляду насення. Але і ўнутраныя якасці, біялагічныя, не можна не дааацэньваць.

Вядома, што ёсць розныя гатункі пшаніцы, жыта, аўса, ячменю. Чулі, напэўна, аб суперэліце, эліце і адсевах зерня. Гэта кваліфікаванае, высакаякаснае, высокаўраджайнае, марозастойкае зерне, прыстасаванае да канкрэтных глебава-кліматычных умоў. Такое зерне забяспечвае высокі ўраджай.

Генрых Панятоўскі з Выганова (Бельскі павет) збіраў у сярэднім каля 13—14 ц зерня з гектара. Цяпер збірае па 18. Чаму? Галоўным чынам, дзякуючы прымяненню высокакваліфікаванага насення. І такіх сялян усё больш. Да вясны сяляне выменяюць звыш 10.000 ц зерня, у той час, калі чатыры гады назад выменілі толькі 2400 ц.

Дзе выменьваецца зерне? У рэпрадукцыйных гаспадарках. Яны атрымліваюць збожжа на ўзроўні арыгіналу. Яго прадукуюць галоўным чынам ПГР-ы з размнажэння эліты. Гэта добрае зерне, марозастойкае і ўраджайнае.

Тысячы доследаў, праведзеных вучонымі і сялянамі, паказалі, што кваліфікаванае зерне дае ўраджай на 2—3 ц больш з кожнага гектара. Каб усе сяляне Беласточчыны сеялі выключна кваліфікаваным зернем, ураджаі былі б найменш на 1200 ц вышэйшыя, чым цяпер. Значыць, гэта адна з галоўных задач беластоцкай сельскай гаспадаркі.

Было сказана: на вёсцы ўжо вясна. Гэта сапраўды так. Ужо цяпер трэба забяспечыцца зернем, угнаеннем, сродкамі аховы раслін. 28 лютага мінае тэрмін дастаўкі зерня ў Гмінныя Спулдзельні. Затым зерне трапіць у 17.000 рэпрадукцыйных гаспадарак, а адтуль да дзесяткаў тысяч гаспадароў.

Насенняводства знаходзіцца цяпер у цэнтры зацікаўленасці улад і гаспадароў. Справа ў атрыманні высокіх ураджаяў пры параўнаўча нізкім укладзе працы і фінансавых сродкаў. Справа ў змяншэнні і ліквідацыі дэфіцыту збожжа.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

## Два тысячагоддзі без бягучага рамонту

Самай вялікай грабніцай у свеце з'яўляецца пабудаваная ў Егіпце піраміда фараона Хеопса, які жыў, дарэчы, яшчэ ў сярэдзіне ІІІ стагоддзя да нашай эры.

Апошні прытулак фараона мае ў вышыню каля 147 метраў і быў пабудаваны больш як з двух мільёнаў вялізных каменных пліт, вагою па дзве тоны кожная. Цікава, што будаваць сабе магілу фараон пачаў яшчэ задоўга да смерці, сагнаўшы для гэтай мэты тысячы рабоў.

У наш час тэхнікі ўсё гэта не было б вялікім цудам. Але не трэба забываць, што піраміда ўзводзілася ў сярэдзіне ІІІ стагоддзя яшчэ да нашай эры, калі самым апошнім дасягненнем навукі і тэхнікі быў... рычаг.

Вялікую павагу і нават лёгкую зайздрасць выклікае незвычайнае майстэрства тагачасных будаўнікоў. Створаны іх рукамі (у літаральным сэнсе гэтага слова) шадэўр будаўнічага мастацтва перажыў тысячагоддзі і дайшоў да нашых дзён нават без адзінага бягучага рамонту, не кажучы ўжо аб капітальным.

## Цікава ведаць

**Самыя марозаўстойлівыя сярод птушак — качкі і гусі. Доследы паказалі, што яны пераносяць тэмпературу да 110 градусаў марозу.**

* ✲ *

**Індыйскім ільвам пагражала б поўнае знішчэнне. калі б людзі не ўзялі іх пад ахову. Па рашэнню ўрада Індыі для 300 застаўшыхся ў краіне ільвоў створан запаведнік. Там ім ужо не страшны іх ворагі — тыгры.**

* ✲ *

**Калі кветка рэзеды апынецца ў адной вазе з ружай, то праз паўгадзіны апусціць свае галоўкі. Але смертаносныя кроплі, якія ўпалі са сцябелькоў рэзеды ў ваду, губяць і царыцу кветак — ружу.**

* ✲ *

**У старажытныя часы капусту лічылі лячэбным сродкам пры розных захворваннях. Вядомы матэматык старажытнай Грэцыі Піфагор пісаў, што капуста «уяўляе з сябе гародніну, якая падтрымлівае бадзёрасць, і вясёлы спакойны настрой».**

* ✲ *

**Сто гадоў назад памідор лічыўся ядавітым плодам, а цяпер гэта самая смачная, вельмі карысная для здароўя гародніна, якая ўтрымлівае многа вітамінаў, арганічнай кіслаты, а таксама 1,7 міліграма караціну ў 100 грамах прадукту.**

# 70 ТЫСЯЧ ПАМЫЛАК

Ленінградскі батанік Рыгор Шлыкаў зрабіў даволі паспяховую спробу абняць неабдымнае. Чвэрць стагоддзя назад ён паставіў мэтай удакладніць, колькі ж на зямным шары адкрыта відаў раслін. Пытанне гэта далёка не пустое. Апрача вялікага навуковага значэння, такая «інвентарызацыя» вельмі важная для селекцыянераў.

Ва ўстанаўленні відаў праглядвае хісткасць. Гэта значыць, што аднолькавыя расліны могуць выглядаць па-рознаму і тым увесці ў зман нават вучонага. Таму ў батанічных каталогах змешчана па некалькі назваў — сінонімаў, што нярэдка прыводзіць да блытаніны.

— Мне прыходзілася «забіваць» адны віды і «ўваскрашаць» другія, — жартам гаворыць Рыгор Шлыкаў.

Такіх «забітых» назваў-сінонімаў, пароджаных у свой час памылковымі «адкрыццямі», набралася больш як 70 тысяч!

Але колькі ж усяго на Зямлі відаў раслін? Батаніка — адна са старажытнейшых дысцыплін — у строгую навуковую сістэму была прыведзена шведскім вучоным XVIII стагоддзя Карлам Лінеем. Ён налічваў усяго 7 тысяч відаў вышэйшых кветкавых раслін. Да пачатку нашага стагоддзя іх набралася ўжо паўтарася тысяч. а пазней акадэмік Мікалай Вавілаў назваў новую лічбу — 200 тысяч. Яшчэ праз некаторы час гэта лічба ўзрасла больш чым у паўтара раза. Цяпер пасля «чысткі», праведзенай Шлыкавым, відавая колькасць расліннага царства складае прыкладна чвэрць мільёна.

Шлыкаў устанавіў, што каля 30 тысяч відаў так ці інакш выкарыстоўваюцца чалавекам; 12 тысяч з іх вырошчваюцца, прычым палавіна з гэтай колькасці прыпадае на кветкава - дэкаратыўныя расліны. На першым жа месцы па свайму гаспадарчаму значэнню стаяць рыс, пшаніца, кукуруза і іншыя культуры.

АДН.

## НА ТРАДЫЦЫІ

**Традыцыі бываюць розныя. Традыцыяй сям'і Кальбарчыкаў з'яўляецца канькабежны спорт. Януш Кальбарчык і яго жонка былі вядомымі польскімі канькабежцамі. Іх традыцыі працягвае маладзенькая дачка Бажэна (на здымку), якая нядаўна ў Закапаным на агульнапольскіх канькабежных спаборніцтвах заняла ІІ месца.**





## НІЧОГА СТРАШНАГА

**Гэтая пашча можа праглынуць чалавека, казу, цялё, як сабака муху. Але нічога такога гэтая пашча не глытае. Гіпапатам належыць да самых вялікіх звяроў, але, падобна як слон, ён раслінажэрны. Жыве ў трапічных рэках Афрыкі. Чалавека не чапае, хіба што той будзе яго прыследваць і надакучыць. Тады гіпапатам знервуецца і акуне прычэпу ў ваду. Што не хоцячы прышыбе сваёй лапачкай — гэта ўжо не яго віна. Так што, калі будзеце ў Афрыцы, можаце лодкай блізка пад'язджаць да купаючыхся гіпапатамаў, але не спрабуйце ўязджаць ім на спіну.** вл.




### У СУДЗЕ

Ці вы чулі, як яны біліся?

— Так.

— А чаму вы не баранілі пакрыўджанага?

— Я не ведаў, хто з іх будзе пакрыўджаны.

Прыслаў

**Янка Цялушэцкі**

### КАЛЯРОВЫЯ ГРАХІ

— Якія грахі мае твой дзядзька? Напэўна, белыя?

— А чаму ты так думаеш?

— Бо ў яго валасы пабялелі.

— Ды якое дачыненне маюць яны да грахоў майго дзядзькі?

— У майго дзядзькі раней былі таксама чорныя валасы, а цяпер белыя, бы снег. Ён мне сказаў, што ўсе грахі ўпалі яму на галаву. Дык відаць яны былі белыя, калі выбялілі яму валасы.

Прыслала **М. Антанюк**

### У ГАСПОДЗЕ

Прыходзіць у гасподу дачка і звяртаецца да бацькі, які там сядзіць з сябрамі:

— Тата, хадзі дамоў, мама хворая.

— Скажы маме, што п'ю за яе здароўе, — адказаў бацька.

Прыслаў

**Аляксандр Варанко**



— Асцярожней... унізе яшчэ не выпаў снег.



— Нешта тут не згаджаецца. Немагчыма, каб ты раптам была такая добрая.

## Заечае мяса

Адзін грамадзянін захацеў пакаштаваць заечага мяса. Пайшоў ён на рынак і, угледзеўшы мяса, пытае прадаўшчыка:

— Ці мяса свежае?

— Свяжуткае, бо яшчэ ўчора мышэй лавіў, — адказаў заахвочваючы прадаўшчык.

Прыслаў **Валянцін Германюк**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **моладзі з Палічнай,** Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню

## В ДЕНЬ РОЖДЕНИЯ

Слова В. Харитонова — Музыка А. Новикова

Не могу я тебе в день рождения
Дорогие подарки дарить,
Но за то в эти ночи весенние
Я могу о любви говорить.

Я могу в ожиданье свидания
До зари простоять под окном
И в часы предрассветные, ранние
Каждый день возвращаться пешком.

Я пока что живу в общежитии,
Увлекаюсь своею мечтой,
Никакого не сделал открытия,
Но оно, несомненно, за мной.

Ты не думай, что я невнимательный,
Что цветы не бросаю к ногам, —
Я тебе в этот день замечательный
Свое верное сердце отдам.

## КУР'ЁЗЫ

### Слон — балельшчык

Цэйлонскі футбольны клуб «Каломба рэнджарс» мае аднаго прыхільніка, які з энтузіязмам вітае кожны поспех сваёй каманды. Яго трубны голас перакрывае крыкі ўсіх астатніх балельшчыкаў. Хто ж гэта? Ніхто іншы, як малады слон, які носіць мянушку Джумпіл. Слон добра выдрасіраван: калі нападаючыя «яго» клуба забіваюць мяч у вароты сапернікаў, ён у той жа момант паднімае ўгору свой хобат і пераможна трубіць.

### Латарэя

— Купіце лёс, — крычыць латарэйшчык да прахожага. — Можаце выйграць самаход!

— А навошта мне самаход, — адказаў прахожы.

— Не кожны выцягне самаход, — суцяшае яго латарэйшчык. — Ёсць і лёсы пустыя.

Прыслаў

**Уладзімір Красоўскі**

# НАВУКОВЫЯ АДКРЫЦЦІ

Чаго толькі людзі не выдумаюць на белым свеце, ды так спрытна, што камар носа не падточыць. Да такіх адкрыццяў адносіцца апублікаваная праца аб уплыве колеру на псіхіку чалавека.

Як вядома, бывае колер халодны — нябескі, або ясназялёны, які нагадвае нам ваду і лёд. Аранжавы і чырвоны колер нагадваюць агонь, таму адносяцца да цёплых колераў.

У гэтым адкрыцці скрываюцца для нас вялікія магчымасці.

Аднак выбачайце, людзі добрыя. Пакуль я не перайшоў да сутнасці расказу, хачу паведаміць вас аб іншым важным адкрыцці.

За граніцай пачынаюць кніжкі выпускаць з рознымі пахамі-араматамі.

Напрыклад, бярэце кнігу «Дапаможнік па кветкаводству», гартаеце, а старонкі пахнуць ружамі, бэзам і іншымі кусцікамі.

Уявіце, значыць, такое: сядзіць гаспадар зімой у ненапаленай хаце. Сцены хаты памаляваны на аранжавы колер і здаецца гаспадару, што ў хаце вельмі цёпла, не толькі цёпла, а проста горача, хоць вокны расчыняй.

Бярэ гаспадар кніжку «Жывёлагадоўля», а ад кнігі расходзіцца прыемны хляўны пах, быццам каровы з конямі тут побач знаходзяцца.

Гаспадар разгортвае ў кухні «Кухарскую кнігу» і па хаце расплываецца смачны пах мяснога бульёну, печаных піражкоў і смажанай індычкі. І да таго гэты пах сытны, што гаспадары вырашаюць абеду не варыць і проста да вячэры рыхтавацца.

Як бачыце, чытачы сімпатычныя, пры гэтых адкрыццях жылі б мы, як у дні масленіцы.

Зразумела, ведаючы нашы арганізацыйныя здольнасці, мы павінны быць падрыхтаваны да малых непаразуменняў.

Можа здарыцца так, што купіць гаспадар кнігу «Садаводства», прынясе дамоў, сядзе як найбліжэй чырвонай сцяны, каб цяплей было, разгорне кнігу і... заплача.

Аказалася, што гаспадару трапілася кніга з вытворчым бракам. «Садаводства» было прасякнута пахам нашатырнага спірту.

Паспрабуйце ў гэтакім выпадку выступіць з рэкламацыяй да выдавецтва. Вас аблаюць і скажуць, што вы самі аблілі кнігу нашатырным спіртам.

Зрэшты і фарбы ў нас нетрывалыя, на сонцы колер трацяць. Вылін준юць сцены ў хаце ад сонца і давядзецца зімою запаліць печку.

Значыць, ранавата прымяняць новыя адкрыцці і выбачайце мне, людзі мілыя, збегаю я па дроўцы, ды пару полен падкіну ў печ, што і вам раю.



*Дзядзька Лявон*

## Сны Колькі Сплюха

Музыканты бубняць якісьці модны танец; вясельнікі не тое, што танцуюць, але проста скачуць, вычварна раскірачваюць ногі. Бабулька Наста агалілася ў шалёным кругавароце, прыцiскаецца да расчырванелага маладзіка і крычыць: «Го-оп... го-оп!»

Райчына вяселле.

Сват чапляе ручнік за электрычную лямпачку, робіць пятлю, плача. Слёзы пырскаюць з-пад прыплюшчаных павек, выцякаюць носам, заліваюць белую кашулю на грудзях. На месцы сэрца ружавее юшка, адвальваецца і шлёпае пад ногі застыўшая кроў. Хапаецца сукачамі пальцаў за сэрца і лямантуе. Чаго? Не чуваць, зусім не чуваць. Толькі Настчынае «го-оп, го-оп!»... штораз шпарчэй і шпарчэй раскручвае пары так, што ўжо не відаць людскіх твараў, постаці здаюцца шпулькамі.

Весялосць глушыць бяду.

Гулянку паласнула шыпячая бліскавіца. Асляпіла. Гром выбіў вокны, усё вышпурнуў з пакоя. Пад лямпачкаю вісіць на вышываным ручніку сват. Усюды пуста — ні гасцей, ні сталоў, ні крэсел. Сват прычытвае: «Вешаюся, людкове, вешаюся... цесць не дае пасагу!... не даў гумавіка! Куды мне вочы дзяваць! Ну, куды? Скажы?»

Мёртва вылупіў на мяне бельмы.

— За пасаг павесіўся, дурню! — крычу яму. — Злазь, стаўбун, бо ручнік запэцкаеш!

Грымоты ляскаюць на прыгуменні аж сасулькі звіняць на бярэзінах. Віхура затуманіла вуліцу душным снегавым пылам.

На панадворку музыка, танцы. Бабулька Наста сядзіць на плоце і выкрыквае: «Го-оп!... го-оп!»

Сват аджыў. Саскочыў на падлогу і сказаў: «Не буду сёння вешацца, бо пагоду сапсую.»

## НА ВЯСЕЛЛІ

У гэту хвіліну настала цішыня. Трэскае ў дрэвінах мароз, качаецца ад смеху па небе месяц, аж зоркі разбягаюцца ва ўсе бакі. У вокнах паявіліся шыбы з адубеўшымі ёлачкамі, у хаце зноў людскі гоман, а ўсе гугукаюць адно: «Непатрэбны гумавік... непатрэбны гумавік!»

Няма Зінкі, не бачу Зінкі.

— Дзе наша дачка? — трывожуся. У адказ дружбанты пакладаюцца ад рогату, дружкі апусцілі галовы.

— У гумне Зінка твая, у гумне. — хіхікае Наста і ліжа языком астатні пярэдні зуб.

Выбягаю на ганак. Паміж кустоў над рэчкаю Зіна гуляе з кучаравым кавалерам. Ён у кажусе, яна ў белай сукні без рукавоў, без шаліка. Падаюць у гурбы, ганяюцца. Давяцца ад уцехі.

— Змерзнеш! Чуеш? Змерзнеш!!! — хачу зысці па сходках ды так коўзка, што не магу рушыць нагою.

Хлопец ухапіўся за Зінчыну руку і бягуць да гумна.

— А вы куды?! Куды!?

Зінка прычыняе палавіну дзвярэй і цягне яго за сабою ў сена.

— Скажу бацьку, смаркуля! Вылупцуе цябе дзягаю, ой злупіць! Не пашкадую, памагу яшчэ...

А яна, Зінка, адвярнулася і высалапіла язык, проста ў твар. Мне, роднай маці!

А кавалер грозна зморшчыўся і выцадзіў праз зубы: — Нам непатрэбны гумавік! Непатрэбны!

Дух забіла ад іхніх слоў. Хапаю за мятлу і хутка ступаю па сходках. Слізгаюся і лячу ўніз, распасціраю рукі, каб затрымацца за што-лень...

* * *

— Аяй, вочы выдзярэш! Што гэта такое чаўпеш па ночы? — нехта вішчыць вельмі блізка, пад бокам.

Схопліваюся з пасцелі, муж перапалохана кінуўся пад сцену і быццам спуджаны звярок таропіцца на мяне вугалькамі вачэй.

На тапчане спіць Зінка. Скручаная ў клубок, ссунула з сябе коўдру. Прамерзла. Ад акна нясе холадам, шыбіны залеплены снегам. На дварэ мяцеліца.

**КОЛЬКА СПЛЮХ**